

Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

Ня бойся!

№ 11 (147), ЖНІВЕНЬ 2012 ГОДА

*Цытата нумара:*

**Не ўстойлівы лёс народа, калі ён залежыць ад волі, а дакладнее, ад норава аднаго чалавека.**

Марк Тулій Цэцэрон.

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# ПРАДКАЗАЛЬНЫ КАНЕЦ

**Сёлятняя палатачная кампанія яшчэ раз засведчывае пра няздольнасць рэжыма дзейнічаць дэмакратычнымі метадамі. Вертыкаль не дапусціла прадстаўнікоў дэмакратычных кандыдатаў да ўдзелу у падліку галасоў. Гэта таксама падцвярджае вывады экспертаў аб тым, што Беларусь ідзе тупіковым шляхам, на якім народ чакае далейшае адставанне ад еўрапейскіх стандартаў жыцця, жыццё па ўзору краін трэццяга свету.**

У дэмакратычных краінах выбарчыя кампаніі заўжды даюць магчымасць народу ацаніць сучасны стан спраў і выбраць тыя сілы, якія прапануюць лепшую ідэю развіцця краіны. У дэмакратычных краінах гучанне голаса апазіцці гарантавана заканадаўствам. Зусім іншая сітуацыя на Беларусі, дзе дзейнічае толькі адзіны палітык – Аляксандр Лукашэнка. Толькі ён і яго прызначэнцы на месцах павінны ўсё вырашаць: ад складу участковых камісій да нормаў медычнага абслугоўвання і коштаў на платную адукацыю. Як выконваюць гэтыя прызначэнцы свае абавязкі перад народам грамадзяне здолелі спаўна пабачыць у мінулым годзе, калі беларускія рублі страцілі ў сваёй вартасці тры разы. Ды і ў гэтым годзе мы лідэры па росту коштаў на тавары і паслугі не толькі ў Еўропе, але і на постсавецкай прасторы. Вось такі клопат пра беларускі народ з боку аднойчы абранага кіраўніка.

Але найбольшую заклапочанасць выклікае той факт, што існуючы рэжым незаконным шляхам мае намер кіраваць і далей. Перазвышоўшы рэкорд знаходжання ва ўладзе Брэжнева наш адзіны палітык мае намер і далей руліць краінай, пакуль яна канчаткова не скаціцца ў прорву. У сэнсе таго, што большая частка ініцыятыўных, адукаваных грамадзян будуць шукаць лепшай долі за межамі краіны, а мясцовыя улады на сваіх сайтах будуць прапаноўваць работу пераважна за сімвалічныя кошты ў 200-300 даляраў. А калі бацькі з сем'яў пакідуюць родны дом, то маці звычайна маюць праблемы з выхаваннем дзяцей, а сем'і страчваюць стабільнасць. Напачатку года нацыянальная статыстыка засведчыла, што па краіне колькасць разводаў у месяц амаль набліжаецца да колькасці заключаных шлюбаў, а на Гарадоччыне разводаў стала больш, чым заключаных шлюбаў. Гаворку тут магчыма весці толькі пра стабільнае знішчэнне інстытута сям'і за часы кіравання АП. Як трэба весці гаворку і пра татальнае выміранне сельскага насельніцтва, якога стала менш на 14 тысяч за гады панавання АП -- а гэта знікла больш паловы насельніцтва вёсак Гарадоччыны.

Вось так – без войнаў, без землятрусаў – знік кошы другі вясковы жыхар. І на дзіва на афіцыйнай статыстыкі выбараў гэтае сваё выміранне ўхваляюць на выбарах 95% нашых сяльчан, стопрацэнтава наведваючы выбарчыя ўчасткі. Ухваляюць, быццам бы выміранне выклікае задавальненне. А мо справа палягае у тым, што розум нашых вясковых грамадзян атручаны татальнай прапагандай дзяржаўных СМІ?

І пры агульнай абыякавасці, татальным ціску на іншадумства ў краіне, пры выкарыстанне штогадовых расійскіх датацый гэтыя працэсы будуць працягвацца. Будуць працягвацца, пакуль не будзе страчана сама краіне, якая ў поўнай залежнасці ад ласці усходняга суседа. Бо для развіцця эканомікі на дземсяць гадоў трэба 90 млрд. даляраў, якія ніколі не дасць Расія, а цывілізаваныя краіны патрабуюць вызвалення палітвязняў і іх рэабілітацыі, на што наш АП не жадае ісці.

Дык мо народу настаў час папрасіць гэтага АП вызваліць крэсла, каб народ мог вольна дыхаць і жыць годна на сваёй зямлі? Дык мо настаў час, калі трэба грамадзянам не чакаць ласкі ад чыноўнікаў, а заявіць, што яны жадаюць людзьмі звацца? Дык мо настаў час, калі трэба пазбавіцца страху і згуртавацца для дасягнення лепшай долі для сябе і сваіх дзяцей?

**Леанід Гаравы.**

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# ВЫКЛЮЧЫЦЬ СА СКЛАДУ УЧАСТКОВАЙ КАМІСІІ

Леанід Гаравы, актывіст Руху "За свабоду!", сябар БСДП(Грамада) звярнуўся ў Цэнтрвыбаркам з заявай наконт выключэння са складу Гагарынскай участковай камісіі №36 трох членаў, прызначэнне якіх адбылося з парушэннямі нормаў Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

У пададзенай заяве Леанід Гаравы адзначае, што 13 жніўня ўдзельнічаў у якасці прадстаўніка ў судовым паседжанні па скарзе Віцебскага абласнога камітэта Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) на рашэнне Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта ад 8 жніўня аб утварэнні участковых выбарчых камісій. Пры разглядзе дадзенай скаргі актывістам былі ўстаноўлены парушэнні нормаў арт. 35, 61 ВК РБ пры вылучэнні грамадзянаў і Гарадоцкай раённай арганізацыяй РГА "Белая Русь" сваіх прадстаўнікоў у склад Гагарынскай участковай камісіі №36. Пры гэтым адбыўся неаб'ектыўны і непрафесійны разгляд рабочай групай Гарадоцкага райвыканкама заявы грамадзян адносна вылучэння Ірыны Раманюгі ў склад Гагарынскай камісіі.

Праваабаронца адзначае, што ў дакументах па вылучэнню прадстаўнікоў шляхам збору подпісаў былі шматлікія парушэнні нормаў заканадаўства: не падавалася месца жыхарства прэтэндэнта, не пазначаны населены пункт, дзе збіраліся подпісы, не напісана дата нараджэння выбаршчыкаў, не паказана вуліца на якой пражываюць выбаршчыкі, не указвалася кватэра, дзе жыве выбаршчык, а таксама ў заяве выбаршчыкаў, яны не ставілі ўласнаручна дату падпісання заявы. Напрыклад, пры вылучэнні ад Гарадоцкай раённай арганізацыяй РГА "Белая Русь" Таццяны Гусаковай дата нараджэння пазначана як 59-ы год. У даведцы рабочай групы гр-ку Раманюга І.Г. прапанавана не ўключаць у склад камісіі у сувязі з неабходнасцю падрыхтоўкі і арганізацыі культурных мерапрыемстваў у дзень выбараў. Але заява грамадзян па яе вылучэнню з'яўлецца несапраўднай, бо дата подпісу грамадзянаў прастаўлена адной рукой зборшчыка подпісаў, а не самімі грамадзян, як патрабуе норма арт. 61.

Актывіст Руху "За свабоду!" просіць Цэнтрвыбаркам абавязаць Гарадоцкі райвыканкам выключыць са складу Гагарынскай участковай камісіі №36 Леванчук Н. І., Ціханенка А.А., Гусакову Т.І. у сувязі з парушэннямі нормаў выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Таксама Леанід Гаравы просіць абавязаць райвыканкам выключыць са складу іншых участковых камісій вылучэнцаў Гарадоцкай раённай арганізацыяй РГА "Белая Русь", у даных якіх няправільна вызначана дата нараджэння і ўказаць на некампетэнтнасць і непісьменнасць членаў рабочай групы Гарадоцкага райвыканкама, якія рыхтавалі даведку да паседжання Гарадоцкага райвыканкама ад 8 жніўня.

**Л. Антонаў.**

ДАБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# ПАКАЗУХА ПА-ГАРАДОЦКУ

**Будоўляй года стала пакрыццё вуліцы Савецкай пліткай з усталяваннем ліхтароў і фантана. З сярэдзіны траўня вядзецца рэканструкцыя вуліцы Савецкай, пачынаючы ад цэнтральнай плошчы Гарадка.**

Першая чарга рэканструкцыі была завершана да 3 ліпеня, каб магчыма было адсвяткаваць Дзень вызвалення Беларусі і дату, якую ўлада называе днём незалежнасці. За паўтара месяца пры штодзённай працы, якая пры дзейнасці двух-трох рабочых не спынялася і ў выходныя дні, Савецкай вуліцы надалі цывілізаваны выгляд, які не стасуецца з саўковасцю існуючай улады. На вуліцы з'явіўся маламоцны фантан, ліхтары, крэслы, а таксама паднятыя клумбы з кветкамі і туямі. Уладны рупар ад пачатку гэтай працы трапіў у стан эйфарыі.

Магчыма пачала збываць мара мясцовых чыноўнікаў, калі, амаль да дзесяцігоддзя дабраўпарадкавання зямлі, Савецкую вуліцу пакрыюць пліткай. Толькі ніхто з чыноўнікаў не агучвае, колькі народных грошаў пайшло і шчэ пойдзе на гэту рэканструкцыю. Таксама яны не адказваюць на пытанне: "Ці з'яўляецца гэта плітачная эпапея неабходнай, калі вуліцы прыватнага сектару патанаюць у брудзе па вясне і восені? Калі ў мікраараёнах праезды трымаюцца на бітым асфальце?".

Але псіхалогія паказушных чыноўнікаў простая: турысты і высокае кіраўніцтва не будзе дабірацца па Маладзёжную ці Сонечную, не будзе прагульвацца па мікраараёнах Гагарына ці Баграмяна. А вось каля цэнтральнай плошчы будуць рухацца.

Высокія госці не будуць задаваць пытанне наконт цёмных вуліц вёсак і прыватнага сектара Гарадка. Тыя ж высокія чыны не спытаюць – чаму застаецца ў аварыйным стане гістарычны помнік – касцёл у Рамнях? Ды і турысты не будуць пытаць чаму не год і не два, не пяцігодку і не дзве нічога не зроблена па стварэнню Цэнтра па зімовых відах спорту, а частка Гарадка – Вараб'ёвы горы па ранейшаму выглядаюць па вялікаму рахунку мядзвежым кутам.

Такіх пытанняў існуе безліч. І сапраўдная улада вырашае іх праз волевыяўленне выбаршчыкаў. А ў нас дзейнічае права сілы ўлады: што хачу, то і варачу. Ды з мацюкамі, ды з бязмерным хамствам. Ды яшчэ каб народ нічога не ведаў пра выкарыстанне народных грошаў.

Плітачная эпапея зараз працягваецца за драўляным плотам. І мусіць да восені дойдзе да скрыжавання з вуліцай Валадарскай. А вось кавалак гарадскога бездарожжа застаўшыйся каля павільёна "Дамавік", які ў народзе называюць польскім, ёсць думка, што так і застанецца.Толькі падаецца, што галоўны чыноўнік раёна будзе патрабаваць, каб самі прадпрымальнікі ці райпо дабраўпарадкавалі вуліцу на гарадской тэрыторыі. Менавіта такая вывернутасць застаецца ў нашых чыноўнікаў з часоў савецкага саюза.

**Л. Гаравы.**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# Падтрымліваць палітычных вязняў!

**Актывіст Руху "За свабоду!" Леанід Гаравы штомесячна лістуецца з палітычнымі вязнямі, вызвалення і рэабілітацыі якіх патрабуе дэмакратычная супольнасць свету.**

"Падтрымаць незаконна асуджаных удзельнікаў выбарчай кампаніі 2010 года пачэсны абавязак кожнага сумленнага грамадзяніна". Менавіта так лічыць Леанід Гаравы, бо нельга быць абыякавым да лёсу нашых суайчыннікаў, якія пацярпелі ад пераследу рэжыму. Актывіст стала лістуецца з ваўкавыскім прадпрымальнікам Міколай Аўтуховічам, які пацярпеў за сваю грамадскую дзейнасць і асуджаны на пяць гадоў турмы за знаходжанне ў яго пяці патронаў. Для маці палітычнага вязня актывіст сабраў грашовыя сродкі сярод неабыякавых грамадзян і даслаў ёй у Ваўкавыск.

Праваабаронца пастаянна піша лісты вядомым палітычным вязням: Міколе Статкевічу, кандыдату ў прэзідэнты 2010 года, якога кінулі ў магілёўскую турму і часта трымаюць у ізалятары; Алесю Бяляцкаму, праваабаронцу, прэтэндэнту на Нобелеўскую прэмію міра 2012 года, якога зараз робяць злосным парушальнікам у бабруйскай калоніі.

Леанід Гаравы лістуецца і са Зміцерам Дашкевічам, якога кінулі ў глыбоцкую турму і рыхтуюць супраць яго чарговую крымінальную справу. Некалькі месяцаў ад Зміцера не было ліста і вось на днях актывіст атрымаў ліст ад лідэра "Маладога фронта". У лісце спадар Дашкевіч паведамляе, што днямі закрываў крыміналку і на працягу месяца чакае суда. Наконт выніку гэтага суда ў Зміцера няма сумневаў: "Арыентыровачна месяцаў пару мне накінуць і паеду на новае месца дыслакацыі – дзеля паляпшэння працэсу перавыхавання. " Пры гэтым Дашкевіч звяртае увагу на тое, што творцыца ў нас тут наволі, то катацца па зонах яму магчыма доўга. Але нягледзячы і на гэты турэмны пераслед Зміцер аптымізму не страчвае. Ліст заканчвае аптымістычнай цытатай:"Усё магу ва ўмацоўваючым мяне Ісусе Хрысце!".

Дэмакратычны актывіст лістуецца таксама і з іншымі палітычнымі вязнямі, якія праходзілі па справах анархістаў і нападу на бабруйскае КДБ. Кожны грамадзянін можападтрымаць вязняў добрым лістом, якога яны усе чакаюць.

**Т. Гаражанка.**

*Аб'ява*

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**

**Стваральнікі інфармацыйнага партала запрашаюць неабыякавых грамадзян да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. У рэдакцыі магчыма бясплатна атрымаць календарыкі на 2012 год, год Дракона.**

**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.**

ВАКОЛ УЧАСТКОВЫХ КАМІСІЙ

# ГАЛАСАВАЛІ ЗА ПРАПАНОВЫ НЕВЯДОМАЙ РАБОЧАЙ ГРУПЫ

**8 жніўня Гарадоцкі райвыканкам вызначыўся са складам участковых выбарчых камісій па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў. Ніхто з вылучаных прадстаўнікоў дэмакратычных партый у склад камісій не быў уключаны.**

Старшыня Гарадоцкага райвыканкама Васіль Муранкоў правёў пазачарговае паседжанне райвыканкама па пытанню стварэння участковых выбарчых камісій ў Гарадоцкім раёне. Надзея Бурунова намесніца старшыні райвыканкама паведаміла, што была створана рабочая група, якая разгледзіла пытанне аб колькасным і асабовым складзе участковых камісій. Адпаведна колькасці выбаршчыкаў на участку было прынята рашэнне аб фармаванні участковых камісій ад 5 членаў на бальнічных участках Гарадка і Езярышча да 19 членаў на буйных участках Гарадка і раёна.

Потым Надзея Бурунова паведаміла аб тым, што ў склад участковых камісій вылучана 390 чалавек: шляхам збору подпісаў грамадзян – 189, ад працоўных калектываў – 20, ад грамадскіх аб'яднанняў181, у тым ліку ад палітычных партый – 9 чалавек: ад БСДП(Грамада), БНФ па аднаму, ад КПБ – 7.

Пры фармаванні камісій паведамлялася аб тых прэтэндэнтах, якія не трапілі ў склад камісіі. Для ілюзіі дэмакратыі ў склад камісій не трапілі не толькі прадстаўнікі апазіцыйных партый Леанід Гаравы (БСДП(Грамада)), Вольга Аўтухова (Партыя БНФ), але і яшчэ тры прадстаўніцы праўладнай КПБ. Трэба адзначыць, што пры гульні ў дэмакратыю ў склад сельскіх участковых камісій пераважна не былі ўключаны вылучэнцы ад прафсаюзных арганізацый культуры і адукацыі. Вось такая дэманстрацыя дносін да тых, хто сее вечнае і высокае. Ну і само сабой зразумела, што была вытрамана такая норма Выбарчага кодэксу, як прадстаўніцтва не больш трэці складу камісіі дзяржаўнымі служачымі.

Але ж дзіўным выглядае прадстаўніцтва палітычных партый у участковых камісіях: з дзевяці вылучаных прадстаўнікоў у склад камісій трапілі толькі прадстаўнікі ад праўладнай КПБ і ніводнага прадстаўніка ад апазіцыйных партый. У рэальнасці прадстаўнікоў палітычных партый уключана крыху больш за адзін працэнт. І гэта ўжо адбываецца на працягу усіх апошніх выбарчых кампаній.

На паседжанні не агалошваўся склад камісій за які галасавалі члены райвыканкама, а толькі называліся лічбы членаў ва ўчастковых камісіях. Напрыканцы паседжання Васіль Муранкоў спытаў у пракурора, як прайшло паседжанне і не дачакаўшыся адказу закрыў пазачарговае паседжанне Гарадоцкага райвыканкама.

Леанід Гаравы лічыць, што паседжанне было праведзена з парушэннем нормаў заканадаўства і мае намер абскардзіць яго рашэнне ў судовым парадку.

**Л. Антонаў.**

# Прызнаць рашэнне райвыканкама незаконным

**Віцебскі абласны камітэт БСДП(Грамада) і Віцебская абласная Рада Партыі БНФ патрабуюць прызнаць рашэнне Гарадоцкага райвыканкама ад 8 жніўня па фармаванню участковых выбарчых камісій Гагарынскай №36 і Савецкай №34 незаконнымі, якія ушчамляюць інтарэсы сябраў партыі.**

У пададзеных скаргах адзначаецца, што неўключэнне Леаніда Гаравога (БСДП (Грамада), Вольгі Аўтуховай (Партыя БНФ) адбылося з парушэннем нормаў выбарчага заканадаўства аб адкрытасці і галоснасці, якія Гарадоцкі раённы выканаўчы камітэт праігнараваў.

Фарміраванне ўчастковых выбарчых камісій па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання на паседжанні Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта праводзілася закрыта і таемна на паседжанні нейкай рабочай групы. Само ж пасяджэнне райвыканкама, на якім прымалася рашэнне, адбылося з грубымі парушэннямі выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, а менавіта: склад членаў райвыканкама (спісачны і прысутны) не абвяшчаўся, праект рашэння якое абскарджваецца рыхтаваўся нейкай рабочай групай, абмеркаванне вылучаных у склад камісіі кандыдатур не праводзілася, абмяркоўваемае пытанне на галасаванне не ставілася.

Працэдура «фарміравання» трыццаці адной ўчастковай выбарчай камісіі Гарадоцкага раёна па колькаснаму і персанальнаму складу заняла 15 хвілін. Дэлегаваныя апазіцыйнымі партыяй прадстаўнікі стоадсоткава не былі ўключаны ў склад участковых камісій. Крытэрый фарміравання ўчастковых выбарчых камісій не вядомы.

Пры такіх абставінах, заяўнікі лічаць рашэнне Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта ад 8 жніўня 2010 г." Аб утварэнні участковых выбарчых камісій па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання" незаконным, якое ўшчэмлівае правы членаў партыі.

Адпаведна заяўнікі патрабуюць абавязаць Гарадоцкі раённы выканаўчы камітэт прыняць новае рашэнне па фарміраванні ўчастковых выбарчых камісій па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання. Прадстаўнікамі заяўнікоў у судзе заяўлены Леанід Гаравы (БСДП(Грамада)) і Леанід Аўтухоў (Партыя БНФ).

Разгляд скаргаў павінен адбыцца на працягу трох дзён.

**Л. Антонаў.**

КРЫМІНАЛ

# Не паспеў з'есці прадукты

**Следча-аператыўная група Гарадоцкага РАУС на працягу некалькіх гадзін канфіскавала ў рабаўніка скрадзеныя прадукты харчавання.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення унутраных спраў, 12 жніўня ў 20 гадзін у Гарадоцкі РАУС звярнулася непрацуючая жанчына. Жанчына паведаміла, што ў нядзелю з 14 да 18 гадзін неўсталяваны злачынца праз незачыненую дзверы, пракраўся ў яе дом і здзейсніў крадзеж прадуктаў харчавання. Нанесеная шкода склала не мала – каля 750 тыс. рублёў.

Следча-аператыўная група Гарадоцкага РАУС на працягу некалькіх гадзін устанавіла, што злачынства здзейсніў беспрацоўны, 1956 года нараджэння. Гарадоцкім аддзелам следчага камітэта ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 205 ч. 2 КК. Выкрадзенае канфіскавана і хутка вернута грамадзянке, рабаўніка чакае суд.

**Т. Гаражанка.**

# Суд не звярнуў увагі на парушэнні выбарчага заканадаўства

**13 жніўня адбыўся разгляд скаргаў Віцебскага абласнога камітэта БСДП(Грамада) і Віцебскай абласной Рады Партыі БНФ на рашэнне Гарадоцкага райвыканкама па фармаванню участковых выбарчых камісій.Скаргі разглядаў старшыня суда Аляксандр Ляшковіч.**

Першай разглядалася скарга ад Віцебскай Рады Партыі БНФ, а прадстаўніком партыі у судзе быў Леанід Аўтухоў. Спадар Аўтухоў спрабаваў пераканаць суд, што Гарадоцкі райвыканкам ушчамляе правы палітычных партый удзельнічаць у выбарах, калі адмаўляе сябрам партыі на ўключэнне ў камісіі. Пры гэтым па меркаванню Леаніда Аўтухова парушаюцца канстытуцыйныя нормы дэмакратыі, што партыі ўдзельнічаюць у выбарах, тым больш у Савецкай камісіі няма ніводнага прадстаўніка ад партый. Але суд гэтыя нормы заканадаўства не ўзяў да ўвагі і не палічыў незаконным рашэнне Гарадоцкага райвыканкама па фармаванню Савецкай участковай камісіі №34, куды не была ўключана прадстаўніца Партыі БНФ Вольга Аўтухова.

Пасля абеду разглядалася скарга ад БСДП(Грамада) па фармаванню Гагарынскай участковай камісіі №36, куды не быў уключаны Леанід Гаравы. Леанід Гаравы сам прадстаўляў інтарэсы партыі ў гэтым судовым працэсе. Напачатку актывіст дэмакратычнага руху заявіў адвод суддзі А. Ляшковічу ў сувязі з наянасцю ускосных і прамых абставін у зацікаўленасці ў выніках разгляду скаргі, бо яго жонка – Наталля Ляшковіч працуе намеснік старшыні камісіі па справах непаўнагадовых Гарадоцкага райвыканкама і знаходзіцца ў кадравым рэестре старшыні райвыканкама, а яе непасрэдная кіраўніца – Надзея Бурунова рыхтавала пытанне аб фармаванні ўчастковых камісій. Але суддзя Ляшковіч не задаволіў гэта хадайніцтва. Таксама не было задаволена хадайніцтва аб удзеле перакладчыка ў судовым паседжанні, бо прадстаўнік заяўніка карыстаўся роднай беларускай мовай, а ўдзельнікі працэсу маюць праблемы з яе выкарыстаннем—першаю чаргу гэта датычылася пракурора.

Пасля азнаямлення з матэрыяламі справы Леанід Гаравы заявіў хадайніцтва аб капіраванні шасці старонак справы, якое пасля ваганняў пракурора было задаволена. Капіраванне было зроблена на неякасным судовым ксераксу. У сваім выступе ў судзе спадар Гаравы звярнуў увагу суда на нормы артыкула 5 Канстытуцыі і артыкула 34 Выбарчага кодэксу, якія надаюць прыярытэт палітычным партыям у выбарах і ў якім адмоўлена сябру БСДП(Грамада). Таксама праваабаронца асабліва спыніўся на парушэннях выбарчага заканадаўства пры вылучэнні шляхам збору подпісаў трох прадстаўнікоў у склад Гагарынскай камісіі на якія заплюшчыла вочы рабочая група. Гэтыя парушэнні – адсутнасць запісу аб населеным пункце, адсутнасць назвы вуліцы, дзе пражывае выбаршчык, а таксама нумара кватэры паводле пастановы цэнтрвыбаркама робяць заяву несапраўднай. Таксама ў спадарыні Леванчук не быў указаны хатні адрас пражывання, што робіць заяву аб яе вылучэнні несапраўднай. Таксама несапраўднай была заява аб вылучэнні Ірыны Раманюгі, дзе выбаршчыкі не ставілі сваёй рукой дату подпісу заявы, як таго патрабуе выбарчае заканадаўства. Між тым рабочая група на гэта парушэнне не звярнула ўвагі, пазначыўшы ў даведцы, што Раманюга будзе задзейнічана ў культурным абслугоўванні выбараў на гэтым участку.

Прадстаўніца адказчыка Гурынава Ганна не здолела патлумачыць, якім чынам па несапраўдных заявах у Гагарынскую участковую камісію трапілі двое членаў. Таксама юрыст райвыканкама не здолела патлумачыць чаму праца рабочай групы не адбывалася галосна і адкрыта, як патрабуе норма Выбарчага кодэкса для арганізацыі выбараў. Нічога прадстаўніца не адказала і на пытанне аб нарматыўных дакументах цэнтрвыбаркама, якіх павінна была трымацца рабочая група пры разглядзе заяў грамадзян. Павісла ў паветры інфармацыя аб тым, што спадар Гаравы ўдзельнічаў у працы выбарчых камісійі як член, і як старшыня камісіі. А таксама, будучы назіральнікам, даказваў незаконнасць рашэнняў Гарадоцкай раённай камісіі на мясцовых выбарах 2010 на ўзроўні цэнтрвыбаркама і масавыя парушэнні ў працы Гагарынскай камісіі ў час мінулай прэзідэнскай кампаніі.

Пракурор у сваіх прамовах трымаўся боку заказчыка і ніякім чынам не карыстаўся нарматывамі выбарчага заканадаўства адносна пытання аб заявах грамадзян. Пад час апошняга слова наогул заявіў, што члены райвыканкама могуць карыстацца асабістым стаўленнем да Леаніда Гаравога і не ўключаць яго ў склад камісіі.

Па выніках спрэчак, прадстаўлення доказаў суддзя Ляшковіч прыняў рашэнне не задаволіць скаргу Віцебскага абласнога камітэта БСДП(Грамада) на рашэнне Гарадоцкага райвыканкама па фармаванню участковых камісій. Пры гэтым суддзя ніяк не аргументаваў той факт, што двое членаў камісіі незаконна ўключаны ў яе склад на падставе несапраўдных заяў. Таксама суддзя не улічыў, што з 17 сапраўдных членаў камісіі больш трэці з'яўляюцца дзяржслужачымі Гарадоцкага райвыканкама.

Леанід Аўтухоў наконт гэтага рашэння заўважыў, што яно як кропля падобна на папярэдняе рашэнне па скарзе БНФ.

Заяўнікі маюць намер абскарджваць неправамоцнае рашэнне суда ў наглядным парадку.

**Л. Антонаў.**

ТАКОЕ ЗДАРЭННЕ

# ДАХ НЕ ВЫТРЫМАЎ ВЕТРА

**Шквальны вецер 7 жніўня пашкодзіў новы дах Дома быта. Пры гэтым пацярпелі аўтааматары, якія прыпаркавалі свае машыны каля будынка.**

Шквальны вецер у Гарадку выпрабоўвае будаўнікоў на якасць іх працы. У сярэдзіне чэрвеня ад моцнага ветра пацярпелі дахі ваенкамата і адміністратыўнага будынка ААТ "Гарадоцкі РАПЗ".

А жнівеньскі шквальны вецер засведчыў, што рамонт даха Дома быта некалькі гадоў назад быў праведзены неякасна. Вецер пазрываў не толькі лісты шыфера, але і латы, на якіх яны трымаліся. Пры гэтым заходні вецер скінуў лісты шыфера на празезную частку вуліцы Чырвонаармейскай, дзе месціцца Дом быта.

Ад падзення шыфера і латаў пацярпелі два аўтамабілі аўтааматараў Гарадка. У першага аказалася выбітым маленькае бакавое шкло і падрапаны кузаў. Больш пашкоджанняў у машыны прадрымальніка, дзе аказалася выбітым задняе шкло, а таксама дэфармаваны кузаў.

Па нормах абавязковага страхавання не прадугледжана кампенсацыя, якая адбылася ў выніку прыроднай "стыхіі". Але прадугледжана, калі эксперты выявяць, што рамонт даху адбыўся з парушэннем будаўнічых стандартаў. Толькі кошт такой экспертызы мусіць будзе варты кошту рамонта пашкоджанага аўтамабіля.

Дарэчы, гэта не адзіны выпадак, калі ад падаючага з даху шыфера церпяць прыпаркаваныя аўтамашыны. Такая "прыродная" з'ява назіраецца час ад часу каля дома №22 на вуліцы Пралетарскай, дзе плоскі дах накрылі шыферам.

**Т. Гаражанка.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# БЕЛАРУСЫ ХОЧУЦЬ ЖЫЦЬ ПА ЕЎРАПЕЙСКІХ СТАНДАРТАХ

У ДЭМАКРАТЫЧНЫХ КАНДЫДАТАЎ ЁСЦЬ ШАНЦЫ НА ТОЕ, КАБ ПЕРАМАГЧЫ НА БУДУЧЫХ ВЫБАРАХ І СТАЦЬ ДЭПУТАТАМІ НІЖНЯЙ ПАЛАТЫ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА. ТАКОЕ МЕРКАВАННЕ Ў ІНТЭРВ'Ю СЛУЖБЕ ІНФАРМАЦЫІ «ЕЎРАБЕЛАРУСІ» ВЫКАЗАЎ ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ» АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ.

Аляксандр Мілінкевіч падаў каля трох тысяч подпісаў грамадзян за яго вылучэнне кандыдатам у дэпутаты і неабходныя для рэгістрацыі дакументы ва Уручскую акруговую выбарчую камісію Мінска.

Ад самага працэсу зносін з патэнцыяльнымі выбаршчыкамі ў Аляксандра Мілінкевіча засталіся неадназначныя ўражанні: «Дрэнна - гэта тое, што краіна ў глыбокай дэпрэсіі, людзі незадаволеныя. Нават бабуля 89 гадоў падышла з простым пытаннем: «Сыночак, а ты за што?» Я адказаў, што я - за перамены. І яна падпісалася. Усе хочуць пераменаў. І старэйшае пакаленне, і маладыя людзі. Але краіна не верыць у магчымасць гэтых пераменаў. Вельмі шкада бо, што нашы дзеці з'язджаюць з-за таго, што ў іх тут няма перспектыў. Гэта стан ўсеагульнай няўпэўненасці, дэпрэсіі вельмі прыкметна. І для таго, каб нешта мяняць, каб праводзіць рэформы, краіна павінна кансалідавацца, яна павінна зразумець, што ва ўсіх нас ёсць агульная мэта. Пакуль, мяркуючы па настроях людзей, я не бачу, якім чынам наша грамадства можа пайсці на неабходныя рэформы».

Сярод уражанняў ў палітыка ёсць і пазітыўныя: «Беларускае таварыства сыходзіць ад чорна-белых ацэнак сітуацыі. Раней былі выразныя дзяленні з боку ўлады на сваіх і чужых, сяброў і ворагаў, правільных і няправільных, сумленных і несумленных. Цяпер такога відавочнага дзялення няма. Многія людзі задумваюцца над тым, што калі не будзе вострых дыскусій, калі не будзе прадстаўнікоў розных сіл ва ўрадзе, у мясцовых органах улады, то давядзецца жыць у застоі. Людзі хочуць, каб плюралізм быў не толькі ў грамадстве, але і ва ўладных структурах».

У сваёй праграме Аляксандр Мілінкевіч робіць акцэнт на неабходнасці еўрапеізацыі Беларусі. На яго думку, настроі ў грамадстве супадаюць з перавагамі еўрапейскіх мадэляў развіцця: «Калі я кажу, што я выступаю за еўрапейскі шлях развіцця, вельмі многія пытаюцца, што будзе з Расіяй? Мы адказваем, што з Расіяй трэба мець адкрытыя, добрасуседскія, празрыстыя адносіны, але не такія, якія ёсць сёння і пастаянна прыводзяць да розных эканамічных войнаў. А еўрапейскі шлях развіцця для нас - гэта ж не ўступленне ў Еўрасаюз у агляднай будучыні. Еўрапейскі шлях развіцця - гэта рух да еўрапейскіх стандартаў. Людзі гэта выдатна разумеюць і жадаюць жыць менавіта па еўрапейскіх стандартах - з еўрапейскімі заробкамі, з еўрапейскім забеспячэннем правоў чалавека, з еўрапейскімі магчымасцямі атрымання адукацыі. Людзі хочуць менавіта гэтага».

«Я гатовы апынуцца і адзіным, і ў асяроддзі яшчэ некалькіх дэмакратычных дэпутатаў, але думаю, што ўлада да гэтага не гатовая, - адзначае Аляксандр Мілінкевіч. - Улада па-ранейшаму дэманструе, што мае намер ўсё трымаць пад поўным кантролем. Ніводнага нашага прадстаўніка (рэд. – з 52 вылучаных) не ўзялі ў склад участковых камісій, дзе і вырашаецца лёс выбараў. Таму чакаць нечага новаегаад гэтых выбараў вельмі складана».

Пры гэтым лідэр Руху «За Свабоду» не спяшаецца заяўляць аб непазбежнай перамозе на маючых адбыцца выбарах: «Трэба быць да ўсяго гатовым. Пасля шматлікіх сустрэч з людзьмі я выдатна разумею, што ўлада мае вельмі нізкі рэйтынг у насельніцтва. Дастаткова якасныя даследаванні паказалі, што ва Уручы ўлада мае падтрымку ў 17 адсоткаў. Дэмакраты маюць некалькі больш - 20-25 працэнтаў. Але для таго, каб набраць 50 адсоткаў, трэба класна папрацаваць. Менавіта таму я казаў і кажу, што на выбары трэба ісці абавязкова. Некаторыя ў дэмакратычнай супольнасці лічаць, што як толькі аўтарытарны рэжым сыходзіць, то адразу ж фактычна ва ўладу прыходзяць дэмакраты. А гэта зусім не так. Нічога аўтаматычна адбывацца не будзе. Трэба заваёўваць сэрцы людзей, заваёўваць іх думкі. І рабіць гэта можна толькі чарнавы, пастаяннай, сур'ёзнай працай».

Гатовы Аляксандр Мілінкевіч і да сітуацыі, калі ўлады свядома пойдуць на любыя дзеянні, каб не дапусціць яго ў парламент: «У гэтым выпадку мы паспрабуем даказаць усім у гэтай акрузе і ва ўсёй Беларусі, што мы перамаглі на самай справе, але нас проста пазбавілі гэтай перамогі. Сёння шанец у мяне ёсць, і я буду працаваць толькі на перамогу».

ЧАРГОВАЯ ДЭВАЛЬВАЦЫЯ?

# ДЭЖАВЮ: НАЦБАНК ЗНОЎ АБВЯРГАЕ ЧУТКІ АБ ДЭВАЛЬВАЦЫІ

ЁСЦЬ У НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ СТАРАЯ ТРАДЫЦЫЯ - ПЕРАД ДЭВАЛЬВАЦЫЯЙ АБВЯРГАЦЬ ЧУТКІ АБ ПЛАНУЕМАЙ ДЭВАЛЬВАЦЫІ.

Аднаразовую дэвальвацыю нацыянальнай валюты ў Беларусі праводзілі ўжо тры разы. І кожны раз гэтай падзеі папярэднічалі заявы кіраўніцтва Нацбанка аб тым, што чуткі аб плануемай дэвальвацыі - «качка», трызненне і правакацыя.

Так, у снежні 2008 года, намеснік старшыні праўлення Нацбанка Павел Калаур заявіў газеце «Беларусы і рынак», што «пытанне аб 20%-най дэвальвацыі рубля нават не разглядаецца». Але ўжо 1 студзеня 2009 года стала вядома, што беларуская валюта абвалілася на тыя самыя 20% ...

Перад леташняй травеньскай дэвальвацыяй, кіраўнік Нацбанка Пётр Пракаповіч, таксама заяўляў, што чуткі аб дэвальвацыі з'яўляюцца правакацыяй.

«Перыядычна ўкідваюцца інфармацыя пра тое, што будзе дэвальвацыя, і гэта адбываецца ці ледзь не кожны дзень. Менавіта такім чынам і з'яўляюцца неабгрунтаваныя чуткі аб абясцэненні нацыянальнай валюты» - казаў Пракаповіч у сакавіку 2011.

«Дэвальвацыі нават у 5% у нас ніколі не будзе» - кляўся тагачасны кіраўнік Нацбанка.

«У нас дастаткова вопыту, які мы назапасілі за 15 гадоў, і гэты вопыт кажа пра тое, што гэта дрэннае рашэнне для беларусаў. Раз дрэннае рашэнне, мы яго выконваць не будзем» - заяўляў Пётр Пятровіч.

Аднак, ужо 23 мая 2011 года пастановай праўлення Нацбанка курс беларускага рубля быў дэвальваваны на 56%

Праз некалькі месяцаў намеснік старшыні Нацбанка Тарас Надольны заяўляў, што «курс у 5000 рублёў матэматычна вывераны і апраўданы эканамічна».

«Я мяркую, што па выніках тыдня, можа быць, паўтары, калі сыдзе спекулятыўны настрой у шэрагу суб'ектаў гаспадарання, курс будзе імкнуцца да адзнакі, разлічанай і пацверджанай пэўнымі матэматычным разлікамі», - заяўляў Надольны ў верасні 2011.

Але ўжо 20 кастрычніка, у выніку аб'яднання двух сесій валютных таргоў афіцыйны рубель абясцэніўся яшчэ на 52% і курс даляра дасягнуў 8680 рублёў.

Нагадаем, што сёння Нацбанк абвясціў трызненнем і правакацыяй апублікаваную «Беларускім партызанам» інфармацыю аб плануемай у агляднай будучыні чарговай дэвальвацыі беларускага рубля.

Такія абвяржэнні ад Нацбанка палохаюць яшчэ больш, чым сама інфармацыя аб плануемай дэвальвацыі.

**«Беларускі партызан».**

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# ХТО І ЯК БУДЗЕ ЛІЧЫЦЬ ГАЛАСЫ НА ПАРЛАМЕНЦКІХ ВЫБАРАХ?

У МНОГІХ ЎЧАСТКОВЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЯХ, ЯКІЯ БУДУЦЬ ЛІЧЫЦЬ ГАЛАСЫ НА ВОСЕНЬСКІХ ВЫБАРАХ У ПАРЛАМЕНТ, ЗНОЎ НЕ ЗНАЙШЛОСЯ МЕСЦА АПАНЕНТАМ УЛАДЫ. З 68.900 ЧАЛАВЕК, ЯКІЯ ЎВАЙШЛІ Ў СКЛАД НАЗВАНЫХ КАМІСІЙ, УСЯГО 61 ПРАДСТАЎНІК АПАЗІЦЫЙНЫХ ПАРТЫЙ. ЧАМУ ЎЛАДЫ НЕ ПУСКАЮЦЬ АПАЗІЦЫЯНЕРАЎ ВА ЎЧАСТКОВЫЯ КАМІСІІ?

Па словах намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча, участковыя камісіі з'яўляюцца асноўным інструментам фальсіфікацыі любых выбараў у Беларусі.

*- Ад таго, якія лічбы выдае старшыня камісіі, залежаць агульныя вынікі. На жаль, галасы ў нас не лічаць, і практыка мінулых гадоў паказвае, што дастаткова толькі ўдзелу двух членаў камісіі - старшыні і сакратара, каб фальсіфікаваць вынікі і ўнесці любыя лічбы ў пратакол, - канстатуе палітык. - Мы аналізавалі склад камісій у розных рэгіёнах Беларусі на працягу апошніх чатырох выбарчых кампаній. Як правіла, ва ўчастковыя камісіі ўваходзяць адны і тыя ж людзі, прадстаўнікі адных і тых жа працоўных калектываў. Яны прайшлі поўную селекцыю, падбіраліся гадамі. Кожны з іх, верагодна, даказаў сваю лаяльнасць уладзе. А калі ў камісію трапляе прадстаўнік апазіцыі, ён пачынае задаваць нязручныя пытанні, пачынае сачыць за працэсам і выносіць усю гэтую кухню фальсіфікацый на публічнае грамадскае абмеркаванне. Натуральна, ён перашкаджае ў атрыманні патрэбных вынікаў выбараў.*

Юрась Губарэвіч упэўнены, што цяперашняя парламенцкія выбары не будуць адрозніваца ў лепшы бок ад папярэдніх выбарчых кампаній.

*- Улада хоча захаваць гэты механізм, які дазваляе кантраляваць выбары. Бо, калі дапусціць у камісіі прадстаўнікоў апазіцыі, то ўся сістэма пачне разваливаца,* - лічыць адзін з лідараў Руху «За Свабоду».

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі звязвае вынікі фарміравання нізавых камісій з чарговым абвастрэннем адносін з Еўрасаюзам.

*- Логіка ўлады такая: усё роўна па выніках гэтых выбараў добрай ацэнкі не будзе, так чаго мы будзі старацца, рабіць шырокія жэсты. Я думаю, таму і было вырашана фільтраваць больш жорстка, чым гэта было падчас ранейшых кампаній,* - адзначае аналітык. - *У адной з гутарак у кулуарах Мінскага форуму ў 2010 годзе я спытаў кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Уладзіміра Макея, чаму не ўключыць апазіцыю ў склад камісій? Бо ўсё роўна іх нязначная колькасць, і ў аніводной з камісій яны не будуць мець перавагі, не паўплываюць на рашэнні. Але вызначна адказу я тады не атрымаў. Маё асабістае ўражанне, улада перастрахоўваецца і не хоча стрэсаў, апублікавання нейкіх непрыемных фактаў. Таму што калі ў камісію трапляе хоць адзін прынцыповы апазіцыянер, уся ціша, роўнядзь і божая мілата парушаецца. А калі камісія складаецца з сваіх людзей, можна быць упэўненым, што будзе патрэбны канчатковы вынік.*

Палітолаг падкрэслівае, што адсутнасць у складзе камісій апазіцыянераў ўзмацняе падазрэнні ў несумленнасці выбараў.

*- Кіраўнік Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына пастаянна паўтарае, што ў камісіі трапляюць апазіцыянеры-скандалісты, якія псуюць нервы і ледзь не паралізуюць працу. Таму, маўляў, іх не хочуць ўключаць у склад камісій. Але, калі ёсць парушэнні, спробы цямніць, то, натуральна, прадстаўнік апазіцыі будзе даводзіць да агульнага ведама такія факты. Гэты чалавек не можа навязаць сваю пастанову камісіі, ён проста глядзіць, бачыць, фіксуе і агалошвае. А ў трактоўцы уладаў гэта дэструктыўная дзейнасць. Атрымліваецца, што за сваю прынцыповасць апазіцыя жа і пакутуе. Улада ж абцяжарвае падазрэнні, што ёсць нешта хаваць,* - лічыць Аляксандр Класкоўскі.

Па словах палітолага, улада з аднаго боку зацікаўлена ў легітымацыі выбараў, але ў той самы час ужо на стадыі фармавання камісій дае падставу сумнявацца ў справядлівасці электаральнай кампаніі.

*- Уладзе і хочацца, і колецца. Відома, быць ізгоямі непрыемна. Беларускае кіраўніцтва таксама хацела б, каб пускалі ў Еўропу, каб можна было ездзіць з візітамі, каб руку паціскалі, каб, у рэшце рэшт, можна было трапіць на Алімпіяду, покатацца на горных лыжах. Але калі на адной шалі вагаў нейкія патэнцыйныя бонусы, а на іншай - пытанне трываласці ўлады, то пераважае другая чара, - падкрэслівае эксперт у інтэрв'ю «Заўтра тваёй краіны». - Хоць місіі БДІПЧ АБСЕ запрашаюцца ў краіну, нягледзячы на тое, што кожны раз ляцяць камяні іх агарод. Гэта нейкі элемент гульні ў дэмакратыю. Але ў выніку пераважае жаданне ўсё трымаць пад каўпаком і правесці па звыклым жорсткім сцэнары.*

**Прэс-служба Руху «За свабоду!»**

ЕЎРАПЕЙСКІЯ СТАСУНКІ

# У МЗС ЛІТВЫ ВЫКЛІКАЛІ ПАСЛА БЕЛАРУСІ

14 жніўня ў Міністэрства замежных спраў Літвы быў выкліканы пасол Беларусі Уладзімір Дражын, якому прадставілі пазіцыю ЕС у сувязі з рашэннем Аляксандра Лукашэнкі адмовіць ў падаўжэнні акрэдытацыі пасла Швецыі і скасаваць дыпламатычны статус іншых супрацоўнікаў амбасады.

Як паведамляе МЗС Літвы, Дражына інфармавалі, што пры пераглядзе далейшай палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі будуць улічаныя і дзеянні адносна шведскіх дыпламатаў і тэндэнцыі ўнутранай палітыкі Беларусі — лёс палітвязняў, ход будучых парламенцкіх выбараў і становішча грамадзянскай супольнасці. У святле апошніх падзей ЕС мае намер абмяркоўваць далейшае абмежаванне палітычных кантактаў з Беларуссю.

Прадстаўнікі МЗС адзначылі, што Літва, як і ўвесь ЕС, зацікаўлена ў захаванні нармальных дыпламатычных адносін з Беларуссю і ўмацаванні супрацоўніцтва ў рамках праграмы Усходняга партнёрства, аднак нармалізацыя адносін залежыць ад далейшых дзеянняў Мінска.

**delfi.lt**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

# ЧАМУ БЮДЖЭТНІКАМ НЕ ПАДНЯЛІ ЗАРПЛАТУ?

ПЛАНАВАНАГА ПАВЫШЭННЯ ТАРЫФНАЙ СТАЎКІ ПЕРШАГА РАЗРАДУ З ПРЫХОДАМ ЖНІЎНЯ НЕ АДБЫЛОСЯ. БОЛЬШ ЗА ТОЕ, АДКРЫТЫМ ЗАСТАЕЦЦА ПЫТАННЕ, ЦІ ПАДНІМУЦЬ ЗАРПЛАТЫ Ў ВЕРАСНІ.

Як вядома, Аляксандр Лукашэнка даручаў павысіць тарыфную стаўку першага разраду, і адпаведна, зарплату бюджэтнікам, 1 жніўня і ў кастрычніку. Аднак, як адзначыў 25 ліпеня намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч, «калі адбудзецца чарговае павышэнне тарыфнай стаўкі першага разраду, у жніўні або пазней, будзе вядома ў бліжэйшыя дні, калі будзе прынята рашэнне аб тактыцы паводзінаў у частцы павышэння тарыфнай стаўкі першага разраду. Магчыма, пакуль неабходнасці павышаць заработную плату і не будзе».

Пры гэтым ён дадаў, што калі магчымасці бюджэту дазволяць, можна будзе зрабіць «некалькі больш высокае, чым узровень інфляцыі, павышэнне тарыфнай стаўкі першага разраду». Намеснік міністра таксама нагадаў пра абавязальніцтвы Беларусі перад крэдыторам - Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС, у тым ліку па зарплаце. «У нас доля заработнай платы ў агульных выдатках бюджэту павінна заставацца на ўзроўні 2011 года», - сказаў намеснік міністра.

Можна было б выказаць здагадку, што рашэнне аб павышэнні стаўкі першага разраду з 1 жніўня будзе прынята ў бліжэйшыя дні задним лікам. Так, напрыклад, адбылося з апошнім павышэннем: 1 мая 2012 года тарыфная стаўка першага разраду павысілася на 5% (з 200.000 да 210 тысяч рублёў), але адпаведная пастанова Саўміна было падпісана 4 траўня.

Аднак на нарадзе па пытанню ўдасканалення дзейнасці органаў пракуратуры 3 жніўня Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што ў Беларусі плануецца павысіць заробак работнікаў бюджэтнай сферы і ваенных з 1 верасня.

«Што тычыцца грашовага забеспячэння, мы ўвесь час рухаемся ў гэтым кірунку. З 1 верасня яшчэ ажыццявім зрух для вайскоўцаў і работнікаў бюджэтнай сферы. Але толькі ў залежнасці ад наяўнасці рэсурсаў. Друкаваць грошы нельга », - заявіў Лукашэнка.

У цэлым плануецца, што з 1 верасня сярэдняя заработная плата па краіне ў бюджэтнай сферы складзе 3,2 млн. рублёў.

У студзені-чэрвені сярэднямесячная налічаная зарплата склала 3 млн. 262,6 тыс. рублёў (393 даляраў), у тым ліку ў чэрвені - 3 млн. 752,1 тыс. (452).

І ўсё ж, чаму не павялічылі тарыфную стаўку першага разраду з 1 жніўня?

Эканаміст Аляксандр Сінкевіч звярнуў увагу на тое, што за апошнее дзесяцігоддзе і нават больш у Беларусі ўпершыню не падвысілі заробак перад выбарамі. Ён лічыць, што ў які адбыўся адбілася супярэчнасць паміж ліберальным крылом ўрада, якое схільна праводзіць жорсткую крэдытна-грашовую палітыку, і тымі, хто працягвае палітыку мінулых гадоў. Як лічыць суразмоўца Naviny.by, прыхільнікі нярынкавага курсу губляюць свае пазіцыі.

«Можна сказаць, што было прынята палавіністае рашэнне - памер пенсій павялічылі, а заробкі пакінулі на тым жа ўзроўні. Ва ўладаў няма ўпэўненасці, як мне здаецца, што праз месяц-два не давядзецца праводзіць нейкія экстранныя мерапрыемствы ў сферы крэдытна-грашовай палітыкі, - кажа Аляксандр Сінкевіч. - Увосень можна чакаць 1. Непрымнасцяў для Беларусі ад уступлення Расіі ў СГА, не выключаны таксама перагляд энергетычных пагадненняў РФ і Беларусі. У чыноўнікаў ёсць асцярогі, што на эканоміку Беларусі можа аказаць негатыўны ўплыў і еўрапейскі крызіс ».

Дырэктар Даследчага цэнтра ІПМ Аляксандр Чубрык выказаў надзею, што факт стрымлівання росту заработнай платы сведчыць «аб ўсведамленні урадам негатыўных наступстваў неабгрунтаванага павелічэння даходаў насельніцтва».

**Алена Спасюк.**

ПЛЮШАВЫ ДЭСАНТ

# ШВЕДСКАЕ МЗС АБВЯРГАЕ ЛУКАШЭНКУ

МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ШВЕЦЫІ ФАКТЫЧНА АБВЯРГАЕ ЛЮБОЕ СВАЁ ДАЧЫНЕННЕ ДА АКЦЫІ З «ДЭСАНТАМ» НА БЕЛАРУСЬ ПЛЮШАВЫХ ЦАЦАК.

У адказ на пытанне БелаПАН кіраўнік прэс-службы замежнапалітычнага ведамства краіны Андэрс Ёрле заявіў:

«Пасля кантактаў з нашым пасольствам у Мінску магу адназначна сцвярджаць, што ні пасольства, ні МЗС Швецыі не ўдзельнічалі ні ў падрыхтоўцы, ні ў ажыццяўленні палёта са шведскімі грамадзянамі і плюшавымі мішкамі на тэрыторыю Беларусі».

9 жніўня Аляксандр Лукашэнка абвінаваціў шведскую амбасаду ва ўдзеле ў падрыхтоўцы палёту: «Калі мы пачалі расследаваць (пасол хай не круціцца, што ён дэмакратыю ў нас абараняе), тыя, хто прыязджалі і рыхтавалі парушэнне дзяржаўнай мяжы, працавалі разам з пасольствам. У нас ёсць гэтаму доказы. Следчыя іх прадставілі». «Таму мы яшчэ разбярэмся, якую ролю адыграла былое шведскае пасольства ў гэтым інцыдэнце», — сказаў ён.

**БелаПАН.**

СПАРТЫЎНЫ РАКУРС

# АЛІМПІЯДА Ў ЛОНДАНЕ СТАЛА ГОРШАЙ Ў СУВЕРЭННАЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Чамусьці здаецца, што кіруючыя прадстаўнікі афіцыйнай беларускай дэлегацыі на Алімпіядзе ў Лондане, нягледзячы на завяршэнне Гульняў, аддалі перавагу б на некаторы час затрымацца ў брытанскай сталіцы, а не вяртацца ў Менск - што называецца, перасядзець буру, пакуль яна не сціхне.

Бо па выніках выступлення нашай зборнай у Лондане чыноўнікам Міністэрства спорту і Нацыянальнага алімпійскага камітэта трэба будзе, мяркуючы па ўсім, вельмі сур'ёзная размова з кіраўніком дзяржавы.

На Алімпіядзе ў Лондане беларусы заваявалі 12 медалёў: 2 залатыя, 5 сярэбраных і 5 бронзавых. Шмат гэта ці мала для такой краіны як Беларусь? На гэты конт існуюць розныя пункты гледжання. Аднак факт застаецца фактам - цяперашнія Гульні сталі горшымі ў суверэннай гісторыі нашай дзяржавы.

Так, на Алімпіядзе 1996 года ў Атланце беларускія спартсмены заваявалі 15 медалёў (1 залаты, 6 сярэбраных, 8 бронзавых), на Алімпіядзе-2000 у Сіднэі - 17 (3, 3, 11), на Алімпіядзе-2004 у Афінах - 14 (2 , 5, 7), на Алімпіядзе-2008 у Пекіне - 19 (4, 5, 10).

Магчыма, цяперашні вынік (які, будзем аб'ектыўныя, не настолькі ўжо горш папярэдніх) і «пракаціў» б, калі б не разрэкламаваная задача 25 медалёў, пастаўленая не кім-небудзь, а самім прэзідэнтам. На фоне заяўленых 25 узнагарод, 5 з якіх павінны былі быць залатымі, 12 медалёў (дзве з якіх залатыя) і сапраўды выглядаюць несалідна.

9 жніўня Аляксандр Лукашэнка, які, нагадаем, з'яўляецца і прэзідэнтам НАК, выказаў незадаволенасць выступам беларусаў на Гульнях: «Мы разам з расейцамі пакуль правальваем Алімпіяду. Яны, вядома, шмат медалёў заваявалі, але не столькі, колькі павінны былі. І мы таксама «. На думку Лукашэнкі, у беларускім спорце хапае праблем і недастаткова выкарыстоўваецца існуючы патэнцыял, ёсць прэтэнзіі і да трэнераў, і да спартсменаў, і да арганізатараў. «У нас ёсць і аб'екты, ёсць і магчымасць, і сродкі вылучаныя, але ў грэблі, цяжкай атлетыцы, спартыўнай гімнастыцы - мы ўжо страцілі гэтыя пазіцыі. Але ж база добрая, трэнеры ёсць, чаму не працуем? »- адзначыў прэзідэнт.

Увогуле, мяркуючы па інтанацыях кіраўніка НАК, разбор палётаў трэба будзе дэталёвы і грунтоўны, а для кагосьці, верагодна, ён можа стаць і фатальным.

Тут можна правесці пэўныя аналогіі з вясновым выступленнем беларускай зборнай на чэмпіянаце свету па хакеі. Гэты від спорту даўно стаць асабняком у нашай краіне і знаходзіцца пад асаблівым, пільнай увагай прэзідэнта. Нагадаем, перад нашымі хакеістамі стаяла задача траплення ў васьмёрку, а беларусы занялі толькі 14-е выніковае месца. Пры гэтым з-за гэтак слабага выніку наша каманда апусцілася на 13-ю пазіцыю ў сусветным рэйтынгу і страціла шанцы прыняць дома алімпійскі кваліфікацыйны турнір. У выніку, старшыня федэрацыі хакея Яўген Ворсін падаў у адстаўку, а памочнік прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму Ігар Зайчкоў ініцыяваў зняцце з пасады генеральнага мэнэджара зборнай Уладзіміра Сафонава.

Цікава, што выбары новага кіраўніка ФХРБ, раней намечаныя на сярэдзіну ліпеня, былі перанесеныя на «пасля заканчэння Алімпійскіх гульняў-2012 у Лондане». Цяпер жа, магчыма, выбіраць новага старшыні ФХРБ будзе ўжо новае кіраўніцтва спартыўнай галіны ...

**Аляксандр Ванковіч, БЕЛАПАН.**

МІЖНАРОДНАЕ НАЗІРАННЕ

# ЦІ ЗМОЖА ЛУКАШЭНКА ДЫКТАВАЦЬ СВАЕ ЎМОВЫ АБСЭ?

НА СУСТРЭЧЫ З МІНІСТРАМ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РАСІІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАДВЕРГНУЎ ПАРЛАМЕНЦКУЮ АСАМБЛЕЮ АБСЕ КРЫТЫЦЫ ЗА ПРЫЗНАЧЭННЕ МАТЭА МЕКАЧЧИ КІРАЎНІКОМ МІСІІ НАЗІРАЛЬНІКАЎ ЗА МАЮЧЫМІ АДБЫЦЦА ВЫБАРАМІ Ў БЕЛАРУСІ. ЧЫМ НЕ ДАГАДЗІЎ БЕЛАРУСКАМУ ПРЭЗІДЭНТУ КІРАЎНІК НАЗІРАЛЬНІКАЎ АБСЕ, ВЫСВЯТЛЯЕ «ЗАЎТРА ТВАЁЙ КРАІНЫ».

«Думаю, што маглі б знайсці больш дасведчанага чалавека ў частцы Беларусі і сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Мы ўважліва зараз вывучаем усе гэтыя пазіцыі і, вядома ж, будзем адпаведным чынам рэагаваць », - заявіў Лукашэнка на сустрэчы з Сяргеем Лаўровым.

Сябра рады праваабарончага цэнтра «Вясна» Таццяна Равяка не выключае, што абурэнне беларускага кіраўніка выклікаў сам факт таго, што Матэа Мекаччи займае пасаду старшыні камітэта па правах чалавека ПА АБСЕ.

- Выбарчы працэс будзе ацэньвацца ў тым ліку і з пункту гледжання сітуацыі з правамі чалавека. А словазлучэнне «правы чалавека» дзейнічае на кіраўніцтва Беларусі, як чырвоная анучa на быка. Гэта адна з прычын такой негатыўнай рэакцыі, - лічыць Таццяна Равяка.

На думку палітолага Валерыя Карбалевіча, адчуваючы падтрымку Расіі і іншых дзяржаў СНД, беларускае кіраўніцтва спрабуе навязаць Захаду сваю волю.

- У АБСЕ ўваходзяць усе постсавецкія дзяржавы. Расея і Беларусь ужо не першы год спрабуюць змяніць палітыку гэтай арганізацыі, узмацніць свае пазіцыі, навязаць сваю парадак дня, - адзначае аналітык.

Расійскія дыпламаты не раз заяўлялі: гэта няправільна, калі АБСЕ на першае месца ставіць правы чалавека.

- Масква лічыць, што АБСЕ павінна займацца, перш за ўсё, бяспекай і эканомікай. Вакол гэтага ідзе даўні канфлікт, - нагадвае Валерый Карбалевіч.

На думку палітолага, афіцыйны Мінск хацеў бы бачыць кіраўніком місіі назіральнікаў прадстаўніка постсавецкіх дзяржаў: пажадана расіяніна, ці казаха, або ўзбека, а ў ідэале - туркмена.

- Так што тут справа не ў персаналіях, а ў тым, што Лукашэнка хацеў бы навязаць свае ўмовы АБСЕ, - рэзюмуе эксперт.

**Генадзь Косараў, "Заўтра тваёй краіны".**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.08.2012 у 20.45.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.